

# НАША СЛОВА

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 10 (597) 19 САКАВІКА 2003 г.

# 85 гадоў Беларускай Народнай Рэспубліцы

## Мы віншуем Вас з Днём Волі!

**85 гадоў таму вясновым сакавіцкім днём, на Звеставанне, пасля шматгадовай акупацыі была абвешчана незалежнасць нашай краіны. Такім чынам беларуская нацыя скарыстала свой гістарычны шанц і заявіла пра сябе на ўвесь голас. На мапе Еўропы замест "Северо-Западного Края" з'явілася Беларуская Народная Рэспубліка. З'явілася, каб у 1991 годзе стаць незалежнай, прызнанай сусветнай супольнасцю, краінай у цэнтры Еўропы.**

**Дарагія суайчыннікі! ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" віншуе Вас з надыходам вялікага свята, заклікае заўсёды несці ў сваім сэрцы ідэалы БНР! Мы ўпэўнены, што недалёка той час, калі 25 сакавіка назаўжды стане галоўным святам у нашай краіне.**

**13.03.03. Сакратарыят ТБМ.**

## ЗВАРОТ ТБМ ДА ДЭПУТАТАЎ МІНСКАГА ГАРСАВЕТА, ЯКІЯ АБРАНЫЯ Ў САКАВІКУ 2003 Г.

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" звярнулася да дэпутатаў Мінскага гарадскога савета XXIV склікання, якія былі абраныя ў сакавіку гэтага году, з прапановай шырока карыстацца дзяржаўнай беларускай мовай у побыце, на працы і асабліва на сесіях Мінскага гарадскога савета.

ТБМ прапанавала кожнаму дэпутату выступіць з ініцыятывай уключыць у парадак дня красавіцкай сесіі Мінскага гарадскога савета наступныя пытанні:

1. Аб выкананні аддзелам адукацыі Менгарвыканкама Пастановы № 48 Міністэрства адукацыі "Праграма дадтковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі".

2. Аб пераводзе на дзяржаўную беларускую мову сталічнай гарадской газеты "Мінскі кур'ер".

3. Аб ужыванні дзяржаўнай беларускай мовы ў маркіроўцы тавараў, якія выпускаюць прадпрыемствы горада.

4. Аб установцы і адкрыцці ў г.Мінску ў 2003 г. помніка Францішку Скарыну.

*17. 03. 2003 г. Сакратарыят ТБМ.*

## Віншуем з юбілеем сябра Рады БНР



Валянцін Грыцкевіч - постаць адметная і прыкметная ў сучаснай беларускай навуцы і культуры. Ён належыць да ліку тых суайчыннікаў, якія апынуліся за межамі нашай краіны, але, нягледзячы на гэта, працуюць на Беларусь.

Валянцін Грыцкевіч мае шмат значных набыткаў у галіне гісторыі, медыцыны, культуры, краязнаўства. Ягоны шырокі досвед абумоўлены, найперш, той адукацыяй, якую ён атрымаў у Беларусі на аддзяленні англійскай мовы ў інстытуце замежных моў, на лячэбным факультэце медыцынскага інстытута, гістарычным факультэце БДУ.

Пачынаў свой працоўны шлях як лекар ва Узлянах на Рудзеншчыне, а затым - у Менску. З 1969 года В. Грыцкевіч стала жыве ў С.-Пецярбурзе, дзе працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Ваеннамедыцынскага музея і адначасна — выкладчыкам гісторыі С.-Пецярбургскага універсітэта культуры і мастацтваў (дацэнт кафедры музеязнаўства культуралагічнага факультэта).

Валянцін Грыцкевіч актыўны ўдзельнік шэрагу міжнародных канферэнцый за мяжою. Ён з'яўляецца сябрам Рады БНР на выгнанні, Міжнароднага ПЭН-клуба, Саюза беларускіх пісьменнікаў і саюза пісьменнікаў "Шматнацыянальны С.-Пецярбург", згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", а таксама сябрам Беларускага таварыства гісторыкаў медыцыны, Рускага геаграфічнага таварыства, Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Ягонаму пяру належыць больш за 350 навуковых публікацый (акрамя газетных) па гісторыі медыцыны і музейнай справы, біяграфіцы беларускай інтэлігенцыі і яе вандроўках па свеце, біяграфіі медыкаў, па метадалогіі гістарычнай навукі, эндакрыналогіі.

Валянцін Грыцкевіч - кандыдат медыцынскіх навук па гісторыі медыцыны Беларусі. Таму невыпадкова ён напісаў такія цікавыя кнігі як "З факелам Гіпакрата" (з гісторыі беларускай медыцыны) і "Адысея беларускай лекаркі. Саламея Русецкая". З іншых кніг Валянціна Грыцкевіча згадаем "Путешествия наших земляков", "Эдуард Пякарскі", "Гісторыя і міфы", у якіх шмат (магчыма яшчэ невядомых для шырокага кола чытачоў) імёнаў і цікавых звестак з гісторыі і медыцыны нашай краіны.

Як бачым, жыццёвы і творчы шлях Валянціна Грыцкевіча цесна знітаваны з ягонай Радзімай. Ён нарадзіўся 30 сакавіка ў Менску ў сям'і настаўніка і лекара. Тут ён атрымаў сярэднюю і вышэйшую адукацыю. Адсюль пачалася яго працоўная дзейнасць, якая цягам усяго жыцця дае свой шчодры плён.

Таварыства беларускай мовы ганарыцца, што Валянцін Грыцкевіч яго актыўны сябар. Ён быў дэлегатам апошніх з'ездаў нашага аб'яднання. Дадамо, што акрамя гэтага, ён зараз узначальвае Беларускае грамадска-культурнае таварыства г. С.-Пецярбург.

Мы віншуем слаўнага сына сваёй краіны, культуролага, гісторыка, лекара, беларускага грамадскага дзеяча з 70-гадовым юбілеем і жадаем творчага натхнення, здароўя, доўгіх гадоў актыўнай працы на карысць Бацькаўшчыны.

**Сакратарыят ТБМ.**




Святкаванне ўгодкаў БНР у Манрэалі ў 2002 годзе

## УСЕБЕЛАРУСКІ СХОД ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

640 чалавек, у тым ліку 414 дэлегатаў, удзельнічалі ў рабоце Усебеларускага сходу інтэлігенцыі, які прайшоў 16 сакавіка ў Менску ў Палацы культуры ААТ "Сукно".

Сход адкрыўся гімнам "Магутны Божа". Потым удзельнікі форуму ўшанавалі хвілінай маўчання герояў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, пачынаючы з часоў Тадэвуша Касцюшкі.

Свае віншаванні Усебеларускаму сходу інтэлігенцыі накіравалі старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла, лідар Кансерватыўна-хрысціянскай партыі – БНФ Зянон Пазьняк, першы віца-прэзідэнт Беларускага ПЕН-цэнтра Карлас Шэрман (ён зараз знаходзіцца на лячэнні ў Нарвегіі), а таксама чацвёра арыштаваных арганізатараў Народнага маршу "За лепшае жыццё!, які прайшоў у Менску 12 сакавіка, - Людміла Гразнова, Андрэй Саннікаў, Зміцер Бандарэнка і Леанід Малахаў.

Паэт Генадзь Бураўкін зачытаў удзельнікам форуму зварот народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

Нацыянальная інтэлігенцыя, адзначаецца ў звароце, не мае маральнага права патрабаваць змяненняў ад іншых да той пары, пакуль сама не пачне больш крытычна ставіцца да сябе. На думку Васіля Быкава, калі электарат не здольны "развязаць заклятыя праблемы" жыцця грамадства, гэта давядзецца рабіць "яго эліце – правай і левай, нацыянальнай і ліберальнай".

*(Больш падрабязна на гэтую тэму -- у наступных нумарах.)*

*Да 85-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі*

Лявон Лаўрэш

# Міністр БНР, генерал Кіпрыян (Цыпрыян) Кандратовіч

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

Ад пачатку наступлення ў баях удзельнічала толькі 2-я пяхотная дывізія, наступаючы паміж 1-м і 15-м карпусамі. 24 жніўня гэтая дывізія была падпарадкавана камандзіру 15-га корпуса генералу Мартасу. 3-я гвардзейская дывізія, даганяючы войскі, падыходзіла ў гэты дзень да Мілавы, 1-я стралковая брыгада была яшчэ ў Новагеоргіеўску. Такім чынам, пры выхадзе 23-га корпуса на лінію наступлення 2-й арміі, 2-я пяхотная дывізія была ў 15-м корпусе, 3-я гвардзейская дывізія ўваходзіла ў бой часткамі, пры чым яе Кексгольмскі полк быў перададзены 2-й дывізіі. Больш заблытаць працу штаба 23-га корпуса не змаглі б нават немцы!

Амаль што да канца жніўня, 2-я армія наступала без значных сутыкненняў з супраціўнікам і пракрочыла палову адлегласці ад расейскай мяжы да Балтыкі. Войскі смяротна стаміліся, адсутнічалі палявыя пякарні, сілкаваліся толькі сухарамі і тым, што адбіралі ў нямецкага насельніцтва. Штаб арміі не меў сувязі са штабамі карпусоў, корпуса з дывізіямі. Ужывалася радыёсувязь, але ж да пачатку вайны штабы не распрацавалі нават кодаў, і загады войскам ішлі адкрытым тэкстам. У гэта цяжка паверыць, але не была арганізавана нават выведка, і ніхто, ні ў штабе фронту, ні ў штабах армій і карпусоў не ведаў, дзе немцы!

Кавалерыя не рабіла рэйдаў па тылах супраціўніка, а ішла за пяхотай. Авіяцыя дастаўляла пакеты паміж штабамі, а расейскія жаўнеры, якія ніколі не бачылі самалётаў, абстрэльвалі сваіх, мяркуючы, што такую хітрую машыну маглі мець толькі немцы.

У германскіх штабах не маглі паверыць, што рускія адкрытым тэкстам па радыё кіруюць сваімі войскамі. Але дакладная выведка з паветра красамоўна сведчыла, што радыёперахопам можна верыць. Гэтак жа працавала і тэлефонная сувязь: аб кожным кроку расейцаў, тутэйшае насельніцтва інфармавала па тэлефону!

Немецкія генералы ўмелі ваяваць і ваявалі надзвычай добра. Атрымаўшы паразу ад Рэнненкампфа пад Гумбіенам (20 жніўня), нямецкія карпусы адарваліся ад расейцаў, для аховы Кенігсберга, пакінуўшы толькі нязначныя часткі ландверу (апалчэнцаў). Выкарыстоўваючы шчыльную сетку чыгунак, нямецкія войскі былі перавезены на левы і правы флангі арміі Самсонава. У гэты час, раскіданыя па фронце на адлегласці ў 120 вёрст, войскі генерала Самсонава ішлі насустрач свайму лёсу, нічога не ведаючы аб супраціўніку. Дадаўшы да сваіх сілаў на ўсходзе 2 пяхотныя карпусы з французкага фронту (так расейская параза выратавала Парыж), 26 жніўня немцы выцялі ва флангі, адразаючы расейцаў ад сваіх баз. Камандзір 6-га корпуса Благавешчанскі пакінуў свае войскі і збег. У гэты дзень, у 7:25 Кандратовіч дасылае Самсонаву тэлеграму: ***"... немцы перайшлі ў энергічны наступ супраць 1-га корпуса з захаду. ... жадана супраць ... наступаючых ... 2-ю пяхотную дывізію ... загадаў адной брыгадзе 6-й кав. дывізіі перасунуцца на правы фланг ..."***.

**27 жніўня** 1-ы корпус пасля жорсткага бою адышоў да Сольдаў, камандзір гэтага корпуса генерал Артамонаў ўзяў вінтоўку і пайшоў кіраваць ротамі, кінуўшы камандаванне корпусам. ***"1-ы армейскі стаіць як скала!"***- далажыў ён Самсонаву, і праз гадзіну аддаў загад адступаць. Артамонаў быў неадкладна зняты з пасады. У гэты ж дзень, 2-я пяхотная дывізія з корпуса Кандратовіча, падпарадкаваная штабу 15-га корпуса, была разгромлена каля Грос-Гардзіена. Самсонаў абедаў разам з англійскім ваенным аташэ Ноксам, недалёка ад фронту ў Нэйденбургу, калі жаўнеры разбітай 2-й дывізіі з'явіліся на вуліцах горада. Людзі былі ***"жахліва стомленыя, тры дні не бачылі хлеба, на працягу двух дзён жаўнеры не атрымлівалі аніякай ежы, ніводзін з абозаў не падышоў..."*** – апавядаў Ноксу адзін з палкавых камандзіраў. У 23-00 Самсонаў далажыў камандуючаму фронтам аб разгроме 2-я дывізіі: ***"2-я дывізія панесла цяжкія страты ... Рэвельскі полк амаль што знішчаны, засталіся сцяг і адзін звяз ... Эстляндскі полк у вялікай мітусні адышоў да Нейденбургу, дзе па-моему загаду застаўся..."***. Раніцай 27 жніўня Кандратовіч знаходзіўся ў Млаве, калі атрымаў загад прыбыць ў Нейденбург, каб кіраваць 2-й дывізіяй. Каля 8-мі гадзін раніцы генерал разам са штабам на 3-х аўтамабілях выехаў з Млавы. На дарозе ён затрымаў адступаўшыя часткі 2-й артылерыйскай брыгады і загадаў ім заняць абарону. Да аддзелаў 2-й дывізіі Кандратовіч прыбыў каля 3-х гадзін дня. Камандзір генерал Мінгін далажыў аб вялікіх стратах і цяжкім стане 2-й дывізіі. Увечары Кандратовіч разам са сваім штабам накіраваўся ў Нэйденбург да Самсонава. У асабістай размове Самсонаў выказаў незадаволенасць Мінгіным, і даў пісьмовы загад прыняць агульнае кіраванне над тым, што засталося ад 2-й дывізіі, каб абараніць Нэйдэнбург і Франкенаў.

З раніцы **28 жніўня** генерал Кандратовіч кіраваў абаронай: затрымаў і вярнуў на пазіцыі зноў пабегшы Эстляндскі полк, даваў указанні пяхоце і артылерыіі, указваў кірункі атакі кавалерыі і т.д. . Да вечара становішча дывізіі стала невыносным і генерал, як пазбегнуць акружэння, дазволіў Мінгіну пачаць адыход. На прапанову Кандратовіча кіраваць адыходам, генерал Мінгін папрасіў яго не турбавацца, так як, ён за апошнія дні настолькі вывучыў справу манеўравання пад час бою, што можа сам выканаць гэты манеўр. Пасля гэтай размовы Кандратовіч пакінуў штаб Мінгіна і больш не вяртаўся.

У гэты дзень Самсонаў сам ***"страціўшы галаву"*** з'ехаў са штаба арміі. Перад гэтым, ён, у 7-05 раніцы, даслаў тэлеграму ў штаб фронта: ***"1-шы корпус ... учора ўвечары адступіў... зараз пераязджаю у штаб 15-га корпуса ... апарат Юза здымаю, часова буду без сувязі з вамі"***. Такім чынам было цалкам дэзарганізавана кіраванне арміяй. ***"З гэтага моманту армія перастала існаваць як цэльны арганізм: Самсонаў яе сакрушыў, і Гіндэнбургу засталося яе толькі дабіць"*** – пісаў вядомы расейскі ваенны гісторык Керсноўскі А.А.

З дакладу ўрадавай камісіі вядома, пахвілінна распісана, што рабіў Кандратовіч 28 жніўня. І таму абсалютна незразумела адкуль ўзяў А.Салжаніцын гэтую лухту: *"И генерал Кондратович, которому — счастье выпало? — что его корпус раздёргали, и, будто бы собирая его, можно было долго кататься поездами между Варшавой и Вильной, ... Кондратович примчался в Найденбург и, не имея тут никого выше себя чином, распорядился: командиру Эстляндского полка взять шесть рот и пулемётную команду и с ними уходить на восток, по шоссе, сопровождая и охраняя его, генерала Кондратовича. Он, очевидно, так расчёл, что одна растрёпанная дивизия его несобранного корпуса всё равно уже подчинена Мартосу, Кексгольмский полк занял позиции и сам продержится, остальные гвардейские полки сюда вовсе не дойдут, — и ему, корпусному, делать нечего, а безопаснее отойти за русскую границу и там ждать, чем кончится"*. Гэта пра тых самых панічна напужаных жаўнераў Эстляндскага палка, якія ўжо некалькі дзён уцякалі з усіх пазіцыяў, пра якіх пісаў Нокс. Гэтых жаўнераў, згодна з вывадамі ўрадавай камісіі, расследваўшай катастрофу ва Ўсходняй Прусіі, як раз 28 жніўня Кандратовіч асабіста вяртаў на пазіцыі: ***"Тым часам конніца немцаў пачала прасоўвацца на поўдзень, у кірунку на Нейденбург. ... Генерал Кандратовіч выправіўся ў Нейденбург, каб хутка з'арганізаваць там абарону. Прыбыўшы ў Нейденбург, ён знайшоў там толькі 1 000 чалавек эстляндцаў, сабраных камандуючым дзеля адпачынку. Эстляндцам, пры якіх было 2 штаб-афіцэры, было загадана заняць высоты на захад ад горада, .... Пасля чаго генерал Кандратовіч зноў выехаў з Нейденбурга на поўнач, да астатніх частак свайго корпуса. Аднак, праехаўшы 2-3 вярсты, даведаўся, аб адыходе эстляндцаў .... зноў вярнуўся, .. і асабіста, разам з чынамі штаба, давёў частку эстляндцаў да тых высот, якія яны павінны былі ўтрымліваць... Устанавіўшы на пазіцыі эстляндцаў, генерал Кандратовіч зноў выправіўся да аддзела Мінгіна на крайні правы фланг"***. Толькі ўвечары, пасля гарачай размовы з генералам Мінгіным, пад час якой Мінгін практычна адмовіўся падпарадкоўвацца (не вядома як складаліся адносіны гэтых генералаў да вайны), Кандратовіч пакінуў аддзл Мінгіна. Прычыны гэтага ўчынку незразумелыя, і тут маглі б дапамагчы мемуары абодвух генералаў, якіх нажаль мы не маем.

Як прайшла ноч, невядома, але ж назаўтра, усё было скончана.

У ноч з 28 на 29 жніўня Самсонаў аддае загад аб агульным адступленні войскаў 2-й арміі.

**29 жніўня** наступіла агонія. Сакрушальны ўдар немцаў па тылах прывёў да разгрому расейскіх войскаў. Генерал Самсонаў застрэліўся. Штаб 15-га корпуса абстраляны з кулямётаў, і камандзір корпуса генерал Мартас узяты ў палон. Камандзір 13-га корпуса Клюеў здаўся ў палон разам з вялікім аддзелам сваіх войскаў. 2 дні з месца разгрому не было ніякай інфармацыі.

**30 жніўня** Кандратовіч дасылае тэлеграму ў штаб акругі, у якой дае інфармацыю аб стане войскаў і знікненні камандуючага арміяй. У той жа дзень штаб фронту загадвае: "***ген. Кандратовічу сабраць усе ... сілы каля Харжэле, адтуль дзейнічаць па абставінах ...***" Некалькі дзён генерал з малымі сіламі прыкрываў шлях на Варшаву.

Усходне-Пруская аперацыя 1914 г., якая пачыналася з перамог расейскага войска, праз два тыдні скончылася поўным разгромам і ўцёкамі 2-х расейскіх армій. Перамогу над 2-й арміяй Самсонава, ў якую ўваходзіў 23 корпус Кандратовіча, немцы назвалі бітвай пад Танненбергам (Грунвальдам) і лічылі гістарычным рэваншам за паразу 1410 г. Пасля разгрому 2-й арміі толькі палоннымі было ўзята 92 000 чалавек, немцам зпатрэбілася 60 цягнікоў, каб вывезці трафейную вайсковую маёмасць. Практычна перасталі існаваць 15-ы і 13-ы корпусы, ад іх засталося 50 афіцэраў і 2000 салдат. У 6-м і 1-м карпусах засталося па 1 дывізіі, у 23-м – каля брыгады. Два камандзіры карпусоў былі ўзяты ў палон, усе астатнія адхілены ад сваіх пасад.

Поўную паразу атрымала і 1-я армія Раннекампфа. Сам генерал Раннекампф, кінуўшы армію, збег на аўтамабіле.



**Генерал Кіпрыян (Цыпрыян) Кандратовіч у парадны форме**

Пасля верасня 1914 г. інфармацыі пра генерала Кандратовічу К. А. ў расейскім войску не знойдзена.

### За Беларусь

У 1917 г. генерал Кіпріян Кандратовіч далучыўся да беларускага нацыянальнага руху. На з'ездзе воінаў-беларусаў Заходняга фронту ён быў абраны ў Цэнтральную Беларускую Вайсковую раду (ЦБВР). Пасля стварэння Рады пачалася канкрэтная праца па арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Утворанае ў гэты час бюро па арганізацыі беларускага войска ўзначаліў генерал К. Кандратовіч, які ўваходзіў у той час у Беларускі выканкам Заходняга фронту. Ягонымі памочнікамі былі генерал–маёр Пажарскі, палкоўнік Камароўскі і паручнік К. Езавітаў. Непасрэднае фармаванне беларускіх палкоў на Заходнім фронце ўзяў на сябе К. Кандратовіч.

У канцы кастрычніка 1917 г. дэлегацыя воінаў - беларусаў Заходняга фронту ў складзе старшыні выканкама ЦБВР С. Рак – Міхайлоўскага, К. Кандратовіча, М.Ярушэвіча і І. Шчэрбы выехала ў Стаўку ВГК дзеля перамоваў з Вярхоўным галоўнакамандуючым генералам М. Духоніным аб арганізацыі беларускіх вайсковых фармаванняў. Фармаванне беларускіх аддзелаў было зацверджана і генерал К. Кандратовіч склаў план фармавання беларускіх вайсковых адзінак і атрымаў ад М. Духоніна дазвол на стварэнне беларускага корпуса на Заходнім фронце. Але бальшавіцкі пераварот не дазволіў ажыццявіць гэтыя планы. У траўні – чэрвені 1918 г. генерал К. Кандратовіч – член Народнага сакратарыяту БНР, у снежні 1918 г. разам з В. Ластоўскім узначальваў Савет дзяржаўнай бяспекі БНР і быў, практычна, міністрам абароны БНР. У Горадні ён зфармаваў штаб – Беларускую камендатуру і 1-ы беларускі полк ў Горадні. Ад пачатку снежня 1918 г. да канца красавіка 1919 года полк месціўся ў Александраўскіх казармах і складаўся з 5 ротаў і 1 эскадрона.

На пачатку 1919 г. генерал Кандратовіч разам з дэпутатам Дзяржаўнай думы Расеі Азнабішыным выязджае ў Парыж. У траўні гэтага ж года яны ўручылі старшыні канферэнцыі мемарандум урада БНР і атрымалі дазвол на прыезд беларускай дэлегацыі ў Парыж. Пасля прыбыцця дэлегацыі, ён працаваў у яе складзе.

У БЭ напісана, што Кандратовіч К.А. застаўся жыць у Парыжы і яго далейшы лёс невядомы. Такую ж інфармацыю дае і літоўская гістарычная энцыклапедыя, выдадзеная ў Бостане (2). Аднак вядома, што генерал К.Кандратовіч, згодна з дамовай паміж урадамі БНР і Летувы ад 11 лістапада 1920 г. камандаваў беларускім войскам, адступіўшым з Беларусі ў Летуву. Генерал быў запрошаны з Беларусі і апрача тытулу галоўнакамандуючага беларускага войска меў тытул віца–міністра Краёвай Абароны Літвы пры міністру абароны Вальдземарасе. Будучы на гэтай пасадзе, арганізоўваў літоўскае войска на Ковеншчыне. Маёр беларускага войска А. Ружанцаў пісаў у сваіх мемуарах: ***"... віца – міністрам быў вельмі непапулярны сярод літоўцаў генерал расейскай службы К.А. Кандратовіч ... у хуткім часе генерал Кандратовіч падаўся ў дымісыю (адстаўку)"***.

*(Працяг у наступным нумары.)*





*Да 85-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі*

# 25 сакавіка – Дзень Волі

25 сакавіка – нацыянальнае свята Беларусі. У гэты дзень 85 гадоў таму ў Менску была абвешчана незалежная, самастойная дзяржава – Беларуская Народная Рэспубліка.

Абвяшчэнне БНР папярэджавалі імклівыя падзеі 1917 года на тэрыторыі Беларусі, утварэнне пасля Лютаўскай рэвалюцыі беларускіх арганізацый, скліканне ў снежні 1917 г. у Менску Усебеларускага з'езду. Такога форуму ў 1917 г. не збіраў ніводзін народ тагачаснай Расіі. Называць гэты з'езд Усебеларускім меліся ўсе падставы: на ім былі прадстаўлены дэлегаты ад Віленскай, Менскай, Віцебскай, Магілёўскай, Гарадзенскай і Смаленскай губерняў, ад беларусаў-франтавікоў. Былі прадстаўлены палітычныя партыі, у большасці сацыялістычнай плыні.

Ужо ў першы дзень працы з'езда чуліся заклікі абвясціць Беларускую Народную Рэспубліку. Але ў асяроддзі дэлегатаў былі моцныя аўтанамісцкія (у складзе Расейскай рэспублікі) настроі.

Усебеларускі з'езд быў разагнаны бальшавікамі, якія баяліся страціць уладу ў Беларусі. Але дэлегаты сабраліся ў лакаматыўным дэпо і абралі Раду Усебеларускага з'езда, а яна 21 снежня 1917 г. абрала Выканаўчы камітэт на чале з Язэпам Варонкам.

Гэтыя кіраўнічыя органы знаходзіліся фактычна на поўлегальным становішчы. Іх спробы ўстанавіць кантакты з Саветам народных камісараў у Петраградзе сустрэлі непрыязны адказ. III Усерасійскі з'езд Саветаў, які адбыўся ў Петраградзе ў сярэдзіне студзеня 1918 г., падтрымаў дзеянні менскіх бальшавікоў.

А ў Менску працягвала дзейнічаць Беларуская вайсковая рада на чале з Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Кастусём Езавітавым, Язэпам Мамонькам і Васілём Захаркам. Яна фармавала беларускія вайсковыя адзінкі.

18 лютага 1918 г. германскія войскі (з-за зацягвання мірных перамоў савецкай дэлегацыяй у Берасці) пачалі наступ на ўсім расейска-германскім фронце. У той жа вечар бальшавіцкае партыйнае і савецкае кіраўніцтва цягніком ад'ехала ў Смаленск. Уладу ў Менску і акрузе ўзяў у свае рукі Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага з'езду. Ён стаўся легальным органам улады.

21 лютага 1918 г. ён выдаў 1-ю Устаўную грамату да народаў Беларусі. У грамаце Выканаўчы Камітэт заявіў: "Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен здзейсніць свае права на поўнае самаазначэнне, а нацыянальныя меншасці на нацыянальна-персанальную аўтаномію" Дэкларавалася скліканне на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму. Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускагаз з'езду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасцяў, абвясціў сябе найвышэйшай уладай на Беларусі для кіравання краем да склікання Усебеларускага Устаноўчага Сойму. Для непасрэднага кіравання краем утвараўся выканаўчы орган улады – Народны Сакратарыят Беларусі на чале з Язэпам Варонкам.

Нямецкія войскі занялі Менск і амаль усю тэрыторыю Беларусі. Нямеччына заключыла з савецкай Расіяй Берасцейскі мір (3 сакавіка 1918 г.), не прызнала беларускую ўладу, бо па ўмовах Берасцейскага міру Беларусь (за выключэннем Гарадні, Ваўкавыска, Ліды; лёс гэтай тэрыторыі Нямеччына абяцала вызначыць пазней) лічылася тэрыторыяй савецкай Расеі, часова акупаванай Нямеччынай да выплаты Расеяй вялікай кантрыбуцыі. Нямеччына абавязалася не прызнаваць новых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі былой Расейскай імперыі. Нямецкія акупанты, заняўшы Менск, забралі грашовую касу Народнага Сакратарыяту і скінулі з яго будынку на плошчы Свабоды беларускі бела-чырвона-белы сцяг. Нягледзячы на гэта Выканкам Рады працягваў сваю дзейнасць.

9 сакавіка 1918 г. Выканаўчы (Спаўняючы) Камітэт Рады выдаў Другую Устаўную грамату да народаў Беларусі, у якой акрэсліваўся дзяржаўны лад Беларусі, вызначаліся правы і свабоды народа Беларусі. Фармальна быда абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, але нічога не гаварылася аб дачыненнях з савецкай Расеяй. Да склікання Устаноўчага Сойму заканадаўчая ўлада заставалася ў руках Рады Усебеларускага з'езду, а выканаўчая і адміністрацыйная ўлада – у Народнага Сакратарыяту. 18 сакавіка – Рада Усебеларускага з'езду была пераўтворана ў Раду Усебеларускага з'езду была пераўтворана ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), як яе вышэйшы заканадаўчы орган.

Аднак у Другой Устаўной грамаце не вызначалася дакладна тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі і нічога не гаварылася аб адносінах Беларусі з іншымі дзяржавамі. І ў першую чаргу з Расіяй. У гэты ж час беларускія дзеячы з Віленскай Беларускай Рады цалкам сталі на незалежніцкія пазіцыі. 18 сакавіка 1918 г. 6 сяброў Віленскай Беларускай Рады, у тым ліку Антон і Іван Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі, былі каапатаваныя ў склад Рады БНР, што ўзмацніла незалежніцкую групоўку ў складзе Рады. Незалежніцкія настроі таксама пашыраліся яшчэ і таму, што Нямеччына адмовілася прызнаць Беларускую Народную Рэспубліку і разглядала тэрыторыю Беларусі (акрамя Гарадзеншчыны) як расейскую тэрыторыю, якую давядзецца вярнуць Расіі. У выніку Берасцейскага міру Нямеччына і Расія падзялілі тэрыторыю Беларусі.

23 сакавіка 1918 г. дэлегацыя сяброў Рады БНР з віленскай Рады прыехала ў Менск

Адразу ж Антон Луцкевіч прапанаваў Народнаму Сакратарыяту абвясціць незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Папярэдне гэтая прапнова была абмеркаваная на паседжанні фракцыі партыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў Радзе БНР. Пасля абмеркавання і спрэчак фракцыя прыняла гэтую прапанову аднагалосна. 24 сакавіка а 8-й гадзіне вечара пачалося пленарнае паседжанне Рады Беларускай Народнай Рэспубллікі. З дакладамі "Палітычнае становішча Беларусі" выступіў старшыня фракцыі БСГ Аркадзь Смоліч. Ён прапанаваў прыняць адпаведную Устаўную грамату з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. Супраць незалежнасці на пасяджанні Рады БНР выступілі прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў, каапатаваныя ў склад Рады яшчэ 20 лютага 1918 года – прадстаўнікі земстваў і гарадскіх дум (амаль усе рускія), а таксама прадстаўнікі яўрэйскіх сацыялістычных партый. Большасць сяброў Рады БНР, у асноўным сябры БСГ, аднадумка выступіла за абвяшчэнне незалежнасці краіны. Пасля доўгіх і бурных спрэчак а 8-й гадзіне раніцы 25 сакавіка 1918 года большасцю галасоў сяброў Рады БНР была прынята Трэцяя Устаўная грамата. Супраць прыняцця граматы (а, значыць, і супраць незалежнасці Беларусі) прагаласавалі прадстаўнікі земстваў і гарадскога самакіравання (з рускамоўнай інтэлігенцыі) і яўрэйскай сацыялістычнай партыі Бунд. Пасля прыняцця Трэцяй Устаўной граматы яны выйшлі са складу Рады БНР. Сябры Аб'яднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі і расейскія сацыялісты-рэвалюцыянеры (эсэры) ад галасавання ўстрымаліся.

Ад гэтага часу Беларусь абвяшчалася незалежнай, вольнай ад якіх-небудзь дзяржаўных сувязяў і саюзаў краінай. У тэксце граматы гаварылася: "Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі Расійскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай". Берасцейская мірная дамова не прызнавалася Беларускай дзяржавай.

У дзяржаўным акце 25 сакавіка былі зацверджаныя ўсе тыя дэмакратычныя правы і вольнасці грамадзян Беларусі, якія абвяшчаліся яшчэ Другой Устаўной граматай. Былі абвешчаны "вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная вольнасць сумлення, незачэпнасць асобы і памяшкання".

Абвяшчаўся таксама сацыялістычны прынцып у землеўладанні: "У рубяжах Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, што самі на ёй робяць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасцю Беларускай Народнай Рэспублікі".

У Трэцяй Устаўной грамаце была і вызначана тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспубллікі, якая ўключала "ўсе землі, дзе жыве і мае ллічэбную перавагу беларускі народ, а ўласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губерняў, заселеных беларусамі". Аб будучых дзяржаўных сувязях павінны быллі вырашаць самі беларусы "ў асобе Устаноўчага Сойму".

Такім чынам, абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі самастойнай і незалежнай дзяржавай было міжнародна-прававым актам, які ўзнаўляў дзяржаўнасць беларускага народа, страчаную ў канцы ХУШ стагоддзя ў выніку захопу тэрыторыі Беларусі Расейскай імперыяй падчас трох падзелаў Рэчы Паспаллітай. Акт 25 сакавіка 1918 года быў лагічным наступствам дзейнасці Усебеларускага з'езду ў снежні 1917 г. Гэты акт зрабіў цалкам легальнай далейшую дзейнасць Рады БНР і яе ўраду ў 1918 годзе і ў наступны перыяд.

Утварэнне БНР адкрывала нам шлях у сям'ю вольных і самастойных дзяржаў Еўропы і свету. Урад БНР у 1918 годзе разгарнуў актыўную знешнюю палітыку і дамогся фармальнага і фактычнага прызнання БНР шэрагам краін, у тым ліку Літвой, Латвіяй, Эстоніяй, Фінляндыяй, Украінай, Чэхаславакіяй, Польшчай.

Савецкі ўрад у Маскве таксама вымушаны быў лічыцца з абвяшчэннем незалежнасці Беларусі. У Маскве знаходзіўся генеральны консул БНР А. Бурбіс. А ў лістападзе 1918 г. старшыня рады міністраў БНР А. Луцкевіч вёў перамовы ў Маскве аб прызнанні савецкай Расіяй Беларускай Народнай Рэспублікай. Праўда, перамовы былі спынены, бо маскоўскі ўрад прыняў іншы варыянт: устанаўленне савецкай улады ў Беларусі (а фактычна новага захопу тэрыторыі Беларусі Расеяй).

За кароткі тэрмін у 1918 г. Радай і ўрадам БНР была зроблена вялікая праца па ўсталяванні дзяржаўных інстытутаў у Беларусю. Урад прыняў пастанову пра дзяржаўнасць беларускай мовы і абавязковае яе выкарыстанне ў афіцыйных дакументах. Хаця германская акупацыя Беларусі абмяжоўвала дзейнасць урадавых органаў БНР, яны дзейнічалі, як у цэнтры, так і на месцах Асаблівых поспехаў урад БНР дасягнуў у галіне асветы і культуры. Адкрываліся сотні беларускіх школ, дзесяткі гімназій, настаўніцкія семінары былі прыняты захады для стварэння нацыянальнага універсітэта, выходзілі дзесяткі беларускіх газет і часопісаў, працаваў беларускі нацыянальны тэатр. Беларуская ўлада ўзяла пад сваю кампетэнцыю прамысловасць, гандаль і сацыяльную апеку.

Але ў канцы 1918 г. тэрыторыя Беларусі была занята войскамі савецкай Расіі, і стварэнне нацыянальнай дзяржавы было спынена. 1 студзеня 1918 г. у Смаленску была абвешчана Беларуская Савецкая Незалежная Рэспубліка, як яна была названа ў маніфесце аб яе абвяшчэнні, хаця яна цалкам залежала ад Масквы і была фіктыўнай, хаця фармальна лічылася нацыянальнай. Стварэнне БССР у значнай ступені абавязана абвяшчэнню БНР

Акт 25 сакавіка 1918 г. стаўся ўзорам пры аднаўленні незалежнасці Беларусі ў 1991 г., а сімвалы БНР – герб Пагоня і бела-чырвона-белы сцяг – былі зацверджаны дзяржаўнымі сімваламі краіны.

Аднак з 1994 г. антыбеларускія сілы, якія знаходзяцца ва ўладзе, пры дапамозе расейскіх урадавых колаў пачалі наступ на ўсё нацыянальнае. Знішчаецца духоўны патэнцыял нацыі. Ідзе планамерны наступ на беларускую мову і кулльтуру. Няспынная інфляцыя і пастаянны рост цэнаў прывялі да жабрацкага стану большасці насельніцтва. Расійскія капіталістычныя кацэрны пачалі захоп беларускай маёмасці. Над Беларуссю навісла пагроза страты незалежнасці, захопу яе тэрыторыі і ўключэння ў склад Расіі пад выглядам саюзнай дзяржавы.

Аднак незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў, і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны, замацаваны Канстытуцыяй, не можа быць абмежаваны або скасаваны праз дамовы дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум. Усебеларускі з'езд за незалежнасць, які адбыўся 29 ліпеня 2000 г., у сваіх рашэннях пацвердздіў усе асноўныя пастулаты БНР і курс на захаванне дзяржаўнага суверэнітэта Беларусі.

Пагроза, што навісла над незалежнасцю Беларусі, павінна аб'яднаць усіх грамадзян краіны, усе палітычныя сілы, якія выступаюць за незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

Віншую ўсіх грамадзянаў Рэспублікі Беларусь і нашых суродзічаў за мяжой з нашым вялікім святам і жадаю добрага здароўя, духоўнай сілы і поспехаў у нашай агульнай справе – захаванні і ўмацаванні незалежнасці нашай дзяржавы.

Жыве Беларусь!

*Анатоль Грыцкевіч,*
*доктар гістарычных навук,*
*прафесар, прэзідэнт*
*Міжнароднага грамадскага*
*аб'яднання "Згуртаванне*
*беларусаў свету"*
*Бацькаўшчына"*
*10 сакавіка 2003 г.*



Менскі гарадскі тэатр, у якім прайшоў Першы Ўсебеларускі з'езд

